# ОРДЭНЫ СОВЕЦКАГА САЮЗА




Ордэн Чырвонага Сцяга




Ордэн Леніна



Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга



Ордэн Чырвонай Звязды




Ордэн Знак Пачоту

16 верасня 1918 года совецкі ўрад пастанавіў:

„Байцоў Чырвонай арміі, якія праявяць асаблівую адвагу і мужнасць на вайне, узнагароджваць ордэнам **Чырвонага Сцяга.**

Ордэн Чырвонага Сцяга—баявая ўзнагарода. Ім узнагароджаны тысячы байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі, а таксама крэйсер „Аврора“ і некаторыя гарады.

Першы ордэн **Чырвонага Сцяга** атрымаў слаўны камандзір уральскіх партызан—таварыш **Блюхер.**

Скончылася грамадзянская вайна, і VIII Усерасійскі з'езд советаў у снежні 1920 года ўстанавіў ордэн **Працоўнага Чырвонага Сцяга.** Гэтым ордэнам узнагароджваюцца тыя грамадзяне, якія праявілі асаблівую самаадданасць, ініцыятыву, любоў да працы і арганізаванасць у вырашэнні гаспадарчых задач.

Першы ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга атрымаў Тульскі завод зброі. У час грамадзянскай вайны завод акуратна і добрасумленна выконваў ваенныя заказы.

6 красавіка 1930 года ўрад устанавіў яшчэ два ордэны: ордэн **Чырвонай Звязды** і ордэн **Леніна.**

Ордэнам Чырвонай Звязды ўзнагароджваюцца тыя, хто сваёю працаю, ведамі, адвагай робяць нашы граніцы непарушнымі, хто дапамагае ўмацоўваць абарону краіны.

Першы ордэн Чырвонай Звязды атрымаў тав. **Блюхер** за перамогу над белакітайскімі бандытамі ў 1929 годзе.

Ордэн Леніна—гэта вышэйшая ўзнагарода ў Совецкім саюзе. Ім узнагароджваюцца лепшыя людзі і калектывы нашай радзімы.

Першы ордэн Леніна атрымала газета „Комсомольская правда“. У мінулым годзе атрымала ордэн Леніна БССР і яе слаўныя кіраўнікі—Гікало і Галадзед.

У лістападзе мінулага года Совецкі ўрад устанавіў новы ордэн—**Знак Пачоту.** Ім узнагароджваюцца як асобныя грамадзяне, так і цэлыя калектывы за выдатную работу.

Ордэнаносец павінен насіць ордэн заўсёды. Ён павінен быць прыкладам для ўсіх астатніх грамадзян.

**Маршал Савецкага Саюза**

## К. Е. Варашылаў



# ПІСЬМО ВАРАШЫЛАВУ

Ў армію Чырвоную,
Ў танкавы атрад,
Таварыш Варашылаў,
К вам пайшоў мой брат.

Таварыш Варашылаў,
Я яго люблю!
Таварыш Варашылаў,
Вер яму ў баю!

На заводзе брат мой
Працаваў, шчэ й як!
Знаю: будзе брат мой
Гэткім і ў баях.

А як стрэне куля
Брата на вайне,
Таварыш Варашылаў,
Напішыце мне.

Я за яго стану
Ў баявых радах,
Я ужо ўтрымаю
Стрэльбу у руках.

Л. КВІТКО

*(Пераклад А. Я.)*



# ЯК У КАЗЦЫ

*Апавяданне Я. ТАЙЦА*
*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

Жыў дзед Мікіта Патапаў і займаўся рыбацтвам. Жонка яго памерла, і засталося ў яго два сыны—Іван ды Мацвей і дачка Каця. От старэйшы сын вырас, пачаў збірацца ў Чырвоную армію. Дзед тут і засумаваў. А Іван і кажа:

— Што ты, татуля! Чырвоная армія—не царская армія!

Супакоіў яго, развітаўся з усімі, паехаў.

Прайшоў час, малодшы сын падрос, пара і яму ў Чырвоную армію. Зноў дзед засумаваў, а Мацвей і кажа:

— Перастань, татуля! Чырвоным армейцам быць—не ў салдатах служыць!

І таксама ў свой час паехаў.

„Ну,—думае дзед,—дачка то ўжо, напэўна, пры мне застанецца".

А Каця вырасла, стала Кацярынай Мікітаўнай і аднойчы кажа:

— Адпусці мяне, татуля, у горад. Што-ж я тут? Апрача неба і вады нічога не бачу!

Стары на яе рукамі замахаў:

— Куды ты паедзеш? Сядзі дома! Ты ж жанчына!

— Не адпусціш, сама паеду!

Ну, бачыць стары, рабіць няма чаго, адпусціў. Прайшло не ведаю колькі часу прыходзіць дзеду пісьмо.

„*Так і так, нізка кланяюся і прашу не крыўдзіцца, што не пісаў, усё вучоба ды заняткі, а цяпер прашу прыехаць да нас у Одэсу, паглядзець наша жыццё чырвонафлоцкае*". І падпісана: „*Ваш сын Іван*". І тут-жа грошы, колькі трэба, прыкладзены, і дакладны адрас.

Дзед павесялеў, прычасаў бараду, сабраўся—паехаў у Одэсу. А там на вакзале Іван чакае, у марской форме, з нашыўкамі, на шапцы золата! Бярэ ён бацьку за руку, вядзе яго ў порт і ўсялякія яму параходы, мінаносцы і розныя іншыя ваенныя караблі паказвае. Мікіта Патапаў толькі ад здзіўлення барадою трасе, ва ўсе бакі азіраецца. А Іван

дастае пропуск, вядзе бацьку ў падводную лодку, садзіць у каюту, аддае каманду:

— Закрыць люкі!

Паплылі яны—толькі хвалі зашумелі. Потым Іван кажа:

— Дзе мы цяпер, татуля, па-твойму?

Паглядзеў Мікіта Патапаў у чыгуннае акенца.

— Не разумею, сынок, ноч настала, ці што?

— А ну, прыгледзься добра!

Паглядзеў стары другі раз:

— Людцы мае, ды гэта-ж мы на дне марскім! Падымай хутчэй, тут і ўтапіцца не доўга!

Падняліся яны наверх. Надта ўсё спадабалася старому.

— Дзе-ж гэта вы, Іванка, такіх параходаў панакуплялі?

А Іван адказвае:

— Нідзе мы не куплялі, усё нашай работы, усё самі зрабілі.

Падзівіўся дзед, агледзеў тыя параходы і сказаў:

— Бач ты, якія вы малайцы, астануся я пры вас, мараках-чырвонафлотцах.

І астаўся Мікіта Патапаў у старэйшага сына.

А праз некалькі дзён прыходзіць тэлеграма з Далёкага Усходу:

ОДЭСА МІКІТУ ПАТАПАВУ

*Прашу і мяне праведаць калі спадабаецца астанецеся Мацвей*

А старому, вядома, цікава пабачыць малодшага сына. Узяў ён грошы на дарогу, паехаў. Ехаў-ехаў, ехаў-ехаў — прыехаў. А на вакзале яго ўжо Мацвей чакае ў форме чырвонага лётчыка. Ну, пацалаваліся яны, пагутарылі; потым пачаставаў Мацвей бацьку абедам і павёў у поле. А на полі тым самалётаў, самалётаў, канца-краю ім няма: і бамбавозы, і знішчальнікі, і разведчыкі, і паштовыя, і ўсялякія! Дастае Мацвей пропуск, садзіць бацьку ў самы вялікі самалёт, сам побач садзіцца і просіць лётчыка:

— Падымі нас, таварыш. Толькі, глядзі, акуратна, бачыш, са мною які дарагі пасажыр!

Узняўся самалёт, а Мацвей кажа:

— Дзе мы цяпер, татуля, па-твойму?

Паглядзеў дзед:

—Ды мы ўжо, відаць, да воблакаў дабіраемся!



*Дастаў Іван пропуск і павёў бацьку ў падводную лодку ..*



*Вылез Мацвей на крыло—скокнуў. У бацькі аж сэрца замерла...*

— Хто-ж гэта вам, сынок, гэтулькі самалётаў падарыў і снасцей такіх дзіўных?

— Ніхто нам не дарыў,— адказвае Мацвей,— ніхто нам не даваў, а ўсё самі ўласнымі рукамі зрабілі.

— Бач ты, якія вы спрытныя малайцы!— сказаў Мікіта Патапаў.—Я з вамі застануся, з лётчыкамі-скакунамі...

І астаўся ў малодшага сына.

Прайшло не так шмат часу, раптам уночы тэлефон:

— Мікіту Патапава Масква выклікае.

— Вышэй бяры, татуля, воблакі, вунь яны дзе, пад намі!

— Давай апускацца, сынок, з непрывычкі ў галаве шуміць!

—Давай, я толькі пасвойму апускацца буду—скокну!

Нахіліўся дзед, паглядзеў уніз:

— Грэх табе, сынок, смяяцца з бацькі, тут не толькі скакаць — глядзець страшна!

— Нічога,—адказвае Мацвей,—у мяне на гэта снасць спецыяльная.

Вылез Мацвей на крыло—скокнуў. У бацькі аж сэрца замерла! А тут парашут раскрыўся, панесла яго ціханька на зямлю. Мацвей бацьку рукою махае, прывітанне пасылае. А стары толькі галавою ківае ды рукамі разводзіць.

Апусціліся яны, абняў бацька Мацвея ды кажа:

Усхапіўся дзед, а ў трубцы Масква Каціным голасам гаворыць:

— Тата, тата-а-а!

Узрадваўся стары:

— Гэта ты, дачка, так позна?

А Масква адказвае:

— Якое позна, у нас поўдзень, і сонца свеціць! Прыязджай! Чакаю з нецярплівасцю.

Паехаў Мікіта Патапаў у Маскву. А на вакзале Каця чакае ў сіняй форме, чырвоныя канцікі, шапка са стрэлачкай. Павяла яна бацьку па сталічных вуліцах, а вуліцы гладкія, роўныя, пасярэдзіне машыны бегаюць, па баках народ ходзіць, усюды дамы новыя. Паглядзеў Мікіта ды кажа:

— Вядзі мяне, дачка, у царскія палацы. Тут, кажуць, раней цары і цараняты жылі!..

— Пасля,—адказвае Каця,— пасля, —а цяпер я цябе пад зямлю павяду.

Стары пакрыўдзіўся:

— Мяне старэйшы сын на дно акіянскае апускаў, з малодшым аж за воблакі лятаў, а ты пад зямлю! Вядзі мяне ў царскія палацы і больш нічога! Цікава, як цары жылі!

Бачыць Каця—упіраецца бацька—і кажа:

— Добра, толькі-ж адна ўмова: заплюшч вочы, і не расплюшчвай іх, пакуль не скажу.



*— А цяпер,—кажа Каця бацьку,—я цябе пад зямлю павяду...*

— Згодзен!

Стары заплюшчыў вочы. Павяла Каця яго—угору, уніз, направа, налева, туды-сюды, нарэшце прышлі.

Расплюшчыў дзед вочы—рот сам раскрыўся, язык анямеў ад здзіўлення. Ну, такое ён там хараство ўбачыў, што і перадаць нельга! Палацы пабудаваны раскошныя, сцены з каменняў-самацветаў вылажаны, калоны стаяць высокія мрамарныя, усё яркім святлом заліта, прахладны вецярок па залах гуляе, народ па лесніцах-самакатках ездзіць, а сам Мікіта Патапаў глядзіць на ўсё гэта хараство зайздроснымі вачыма.

— Эх,—сказаў ён, і шапку зняў,—да чаго багата цары жылі. Як у казцы ўсёроўна, і цягнікі проста да палацаў падыходзяць!

Усміхнулася Каця.

— Гэта не цары, татуля, гэта мы так багаті жывём. Я-ж цябе пад зямлю прывяла.

Не паверыў стары, махнуў на яе шапкай:

— Не можа такога быць пад зямлёю!

— А вот ёсць!—адказала Каця,—хадзем пакатаемся.

Паехалі яны цягніком у мяккім вагоне, на экскалатары[1]) праехалі, агледзелі ўсе станцыі... А стары ўсё не адважваецца шапку адзець, камечыць яе ў руках ды і кажа:

— Хто-ж гэта вам, Кацюша, такіх палацаў багатых набудаваў пад сырой зямлёй?

— А хто-ж нам набудуе? Самі будавалі, самі зямлю капалі, палацы муравалі.

Надзеў Мікіта Патапаў шапку, абняў дачку, пацалаваў моцна ды і кажа:

— Такое ты мне цуда паказала, дачка, што я з табою астануся, у горадзе-сталіцы буду жыць.

І астаўся дзед у сталіцы жыць і часта пад зямлёю катаецца.

---

[1]) Экскалатар—лесніца-самакатка.



# ГЫЛЯ ГУСІ

*Апавяданне П. ПАНЧА*
*Рысункі А. ВОЛКАВА*

На выгане пастушкі гулялі ў гарадкі. Яны ставілі кіёк і цалялі ў яго палкамі. Андрэйка між імі быў найменшы. Палкі так далёка ён не мог кінуць, і таму яго не прымалі ў гурт. Каб чым-небудзь заняцца, ён хадзіў па выгане на знойдзенай недзе драўлянай назе, з торбачкай цераз плячо, нібы старац. Гусі, якіх ён пасвіў, тут-жа шчыпалі зялёную травіцу.

Захопленыя гульнёю, пастушкі не заўважылі, як у вёску ўехала некалькі верхавых з зоркамі на шапках. Адзін барадаты пад'ехаў да пастушкоў і спытаў:

— Белых няма ў вас, хлопцы?

— Няма ніякіх у нас,—адказалі ў адзін голас пастушкі.—Белыя вунь там, у другой вёсцы.

Да верхавога прыкульгаў і Андрэйка на сваёй драўлянай назе. У руках у яго была доўгая лазіна, якою ён падганяў гусей.

— Дзядзька, пакатайце мяне, — сказаў Андрэйка.

— Як-жа ты ў страмёны станеш?—спытаў чырвонаармеец,—у цябе-ж нага вунь якая.

— Гэта я знарок.—Андрэйка нагнуўся, адвязаў драўляную нагу і заскакаў на сваіх. Барадаты верхавы ўсміхнуўся і паехаў далей за іншымі чырвонаармейцамі.

У абед Андрэйка пагнаў гусей дадому. Калі ён падыходзіў ужо да свайго двара, з другога канца вуліцы зноў паказаліся верхавыя. Цяпер іх было больш і яны размахвалі шаблямі. З двароў выскачыла некалькі чырвонаармейцаў ды кінуліся наўцёкі. За імі пагналіся тыя, што імчаліся на конях з шаблямі. На плячах у іх былі пагоны.

Напалоханыя гусі з крыкам разляцеліся па усёй вуліцы, а Андрэйка ўскочыў к сабе

на двор. Пад паветкаю бацька хутка знімаў сядло з каня, а праз шчыліну пазіраў на вуліцу той самы барадаты чырвонаармеец, што пад'язджаў на выгане да пастушкоў.

— Хавайся, таварыш, на вышкі,—угаварваў яго Андрэйкаў бацька. У яго чамусьці дрыжэлі рукі і ён ніяк не мог управіцца з сядлом.

— Пакуль нашы прыскочаць, белыя могуць знайсці,—адмахнуўся барадаты чырвонаармеец.—Каня заўважаць!—Ён, мусіць, парашыў адбівацца, бо рэвальвер трымаў у руцэ.

Андрэйка падышоў бліжэй. За вяровачку ён цягнуў драўляную нагу.

Барадаты чырвонаармеец зірнуў на Андрэйку.

— Сынок, дай сюды нагу.

— А пакатацца дасцё?—пачаў таргавацца Андрэйка, моцна трымаючы нагу за вяровачку.

— Зараз пагонім каня да студні.

Андрэйка заскакаў ад радасці, але бацька злосна тупнуў на яго нагою.

Чырвонаармеец хутка скінуў гімнасцёрку і боты, а Андрэйкаў бацька схаваў усё гэта



разам з сядлом пад салому ды зноў прагаварыў жаласна:

— Таварыш, схавайся лепей на вышкі!

Але барадаты чырвонаармеец у адной сарочцы, на драўлянай назе, з цабэркам у руках, ужо кульгаў па вуліцы і даўгою лазіною гнаў гусей.

— Гыля, гусі, гыля!

Напорадзе задаволены Андрэйка, трымаючыся за грыву, падганяў голымі пяткамі каня і гарэзна размахваў дубцом.



гаварваў: „гыля, гусі, гыля“.

— А ну, давай сюды гусака,—крыкнуў на яго салдат, што вярнуўся назад.

— Хіба я яго злаўлю з маёй нагою,—скрывіўся барадаты,—лаві яго сам.

Салдат саскочыў з каня і стаў ганяцца з шабляю за гусаком. Гусі загагаталі. Андрэйка з канём быў ужо каля студні. Убачыўшы, што робіць салдат, Андрэйка закруціўся на кані:

Па вуліцы гойсалі белыя. Адзін падбег да барадатага і запытаў:

— Эй, мурло, у каго стаялі чырвоныя?

— Вунь там,—паказаў барадаты наўгад.

— І ў нас, дзядзька...—умяшаўся ў гутарку Андрэйка. Барадаты непрыкметна махнуў лазіною на каня. Конь пабег і не даў Андрэйку дакончыць.

Белыя, мусіць, даведаліся, што не ўсе чырвонаармейцы паспелі ўцячы, і цяпер кінуліся шукаць іх па дварах. Забеглі яны і да Андрэйкі на двор, але хутка выскачылі. Адзін з іх зноў прымчаўся да барадатага. Барадаты ўсё яшчэ размахваў лазіною, прыстукваў драўлянаю нагою і прыгаварваў...

— Гэта нашы гусі... Дзядзька забаўляецца, не чапайце.

У гэты час у канцы вёскі пачалася густая страляніна. Белыя кінуліся ўцякаць. Тады барадаты выхапіў з кішэні рэвальвер і наставіў яго на салдата, які ўжо злавіў гусака за нагу.

— А такога гусака не хочаш, нягоднік? Здавайся!

Салдат убачыў, што ў вёску беглі ўжо чырвоныя, пусціў гусака і збянтэжана падняў угору рукі. Барадаты стаяў перад ім ужо на сваіх нагах, а драўляная ляжала на зямлі.

*Пераклад з украінскай мовы А. П.*



Рыс. Г. ЗМУДЗІНСКАГА



# ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

*ЯНКА КУПАЛА*

І лягла цішыня
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

Снег пушысты залёг
На галінах сасон,
І чарнобыль, і мох
Атуліў сабой ён.

Сокат птушак замёр,
Як-бы поўнач была,
Адно свісне тапор
Ды зазвоніць піла.

Далей—глуш, цішыня
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.




# Мядзведзь й лісіца

*Байка А. КРОТА*
*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

Пад ялінаю у лесе
Стрэў мядзведзь лісу:
— Добры дзень, мая зямлячка!
Навіну нясу.
— Добры дзень, таўстун лянівы!
Што за навіна?
Мо' парадуе часамі
І мяне яна?
— Ох, парадуе, сястрыца!
Проста ой-ёй-ёй!
Кожны радавацца можа
Навіне такой.
— Дык хутчэй, таўстун лянівы,
Гавары яе!
Што ты гэтак растапырыў
Лапы тут свае?
Каб яны паадсыхалі
Нечага табе,
Як за год не дапытацца
Праўды у цябе!

— Ну, не злуйся-ж так, сястрыца,
Раскажу пра ўсё.
А на лапы ты дарэмна
Сыплеш праклянццё.
Сёння, кумачка, вось імі
Задушыў я льва!
Не спалохаўся ні кроплі
(Хоць было іх два)
Смела кінуўся на львоў я
З крыкам баявым,
Паказаў, чаго я варты
Ворагам сваім.
Мігам бойка закіпела,
Палілася кроў.
Першы мёртвым лёг пад дрэвам,
А другі зароў
Ды панёсся без аглядкі
У далёкі край...
Вось цяпер ты ў гэтым лесе
Вольна пажывай!
— Брава, брава!—ў захапленні
Крыкнула ліса,—
Навіны такой ніхто шчэ'
Мне не расказаў.
Пабягу-ж я на ўсе ногі
І усім звярам
Пра тваю, кум, перамогу
Вестку перадам.
Хай-жа кожны ў лесе знае,
Што яго цяпер
Не пакрыўдзіць леў драпежны —
Самы дужы звер!
— Не, не трэба, дарагая,
Не кажы нідзе,
Бо як леў пачуе гэта,
Буду я ў бядзе...





# ПАЛЯВАННЕ НА КРАКАДЗІЛА

*Апавяданне А. ПЯТРОВА*
*Рысункі К. ГЕДДЫ*

Сонца апускалася за горы. Генры Дзіксон і яго праваднік—індус Азіс сядзелі каля парога хаты. Яны ласаваліся бананамі і гутарылі аб паляванні на буйвалаў.

Раптам у канцы вуліцы пачуўся крык. З хат пачалі выбягаць дарослыя і дзеці.

— Там нешта здарылася,—сказаў Азіс.

Паляўнічыя пайшлі следам за людзьмі к рэчцы. Там ужо сабралася шмат народу каля плакаўшай жанчыны. На пяску ляжала карова; яе пярэдняя нага ад калена да капыта была разадрана аж да касці. Тут-жа стаяў перапалоханы стары пастух і напэўна дзесяты раз апавядаў, як гэта здарылася.

— Карова пайшла напіцца вады, а кракадзіл схапіў яе,—растлумачыў Генру праваднік.

— Як ёй удалося вырвацца?

— Яе выратаваў вось гэты пастух; ён падбег да кракадзіла і пачаў біць яго палкай па галаве. Кракадзіл выпусціў карову.

Прышоў вясковы знахар і пачаў прысыпаць раны нейкімі лекамі.

— Для беднай сям'і страціць карову — гэта вялікае гора,—заўважыў Азіс, калі паляўнічыя варочаліся ў паселішча.

Генру захацелася схадзіць на паляванне на кракадзіла. Ён сказаў пра гэта Азісу, але той толькі паківаў галавою.

— Па індускаму звычаю забіваць кракадзіла не можна: іх лічаць святымі жывёламі,—сказаў ён, але праз хвіліну дадаў:— хаця, вам, саіб, дазваляецца шмат што з таго, што забаронена індусам.

Паляўнічыя сталі абмяркоўваць, як лепей правесці паляванне. Генры прапанаваў выкарыстаць атруту.

— Гэта добрая думка!—з радасцю згадзіўся Азіс: — кракадзіла нельга забіваць, але калі ён праглыне атрутную прынаду, дык у сваёй смерці будзе вінават сам. Праўда?

— Канешне,—усміхнуўшыся, сказаў Генры.

Азіс супакоіўся і гарача ўзяўся за справу.

Генры застрэліў двух дзікіх паўлінаў. Паляўнічыя насыпалі ім у сярэдзіну мыш'яку і палажылі ў мяшок. Гэта было зроблена так, каб ніхто не ведаў, бо Азіс баяўся, што пра ўсё гэта пранюхаюць браміны[1]).

— Чаму ты так баішся іх?—спытаў Генры.

— Ах, саіб!—сказаў Азіс. — У брамінаў многа багатых прыяцеляў. Калі разгневаецца брамін,—разгневаюцца і яго прыяцелі: старшыня паселішча, купец, суддзя. Яны за адну хвіліну могуць знішчыць гаспадарку і пасадзіць у турму беднага чалавека.

— За што?

— Ні зашто, саіб. Багаты чалавек можа зрабіць з беднымі ўсё, што захоча.

Назаўтра раненька паляўнічыя пайшлі на далёкае праточнае возера. На беразе яны спудзілі некалькі кракадзілаў. Цікава было наглядаць, як выскаквалі з вады спалоханыя рыбы, калі іх лютыя ворагі,—кракадзілы—праплывалі глыбока пад вадой.

---

1) Браміны—прадстаўнікі індускай рэлігіі.

Азіс прывязаў да аднаго паўліна доўгую вяроўку і перакінуў яе праз сук дрэва, нахіленага над вадой.

Паляўнічыя заселі ў бамбукавых зарасніках. Генры ўзяў канец вяроўкі і асцярожна падцягнуў паўліна ўгару. Потым ён апусціў птушку на возера і стаў торгаць за вяроўку. Паўлін залапатаў у вадзе як жывы.

Паляўнічым прышлося доўга чакаць, пакуль з'явілася здабыча. Раптам Азіс крануў рукою за Генрава калена.

— Плыве, саіб, плыве!—прашаптаў ён, паказваючы вачыма на сярэдзіну возера. Там мільганула цёмная пляма, навокал якой пачалі разыходзіцца вадзяныя кругі.—

Генры стаў торгаць паўліна яшчэ мацней. Раптам каля самага берагу паказалася страшэнная галава кракадзіла. Бліснула разяўленая ляпа, густа ўсаджаная зубамі, і атручаная мыш'яком птушка знікла ў вадзе. Канец вяроўкі сарваўся з паўлінавай шыі і ўзляцеў у паветра.

Азіс ад радасці пацёр далонямі калені.

— Цяпер я прывяжу другога паўліна,—сказаў ён, усхапіўшыся,—няхай кракадзіл пачастуецца смачнай дзічынай.

Праз хвіліну ў вадзе лапатала другая птушка. Але ёй не „пашанцавала“: ніводзін кракадзіл не звярнуў на яе ўвагі. Мусіць, кракадзілы заўважылі людзей. Генры ўжо збіраўся спыніць забаву, як раптам убачыў у кустах шакала. Звер асцярожна падкрадваўся да берагу. Потым ён лёг за кустом і не спускаў вачэй з птушкі. Генры тарганў за вяроўку. Паўлін падскочыў у паветра, шлёпнуўся ў ваду і зноў падскочыў. Шакал збянтэжана глядзеў на яго і аблізваў губы. А калі паўлін раптам затанцаваў на вадзе, а затым двойчы падскочыў высока ўверх, шакал аж вочы вытрашчыў ад здзіўлення; ён нават завішчэў і запоўзаў за кустом.

Але хутка ён заўважыў вяроўку і правёў па ёй вачыма да кустоў. Які жах! У кустах сядзелі людзі! Шакал усхапіўся і куляй паляцеў далей адгэтуль.

Азіс ад радасці закруціўся на траве.

— Саіб прыдумаў вясёлае паляванне.—усклікнуў ён, паціраючы калені.—У шакала цяпер ёсць што расказаць жонцы і дзецям...

Але вось у далёкім кутку возера слупам узнялася вада. Яшчэ і яшчэ раз. Шырокія кругі разышліся па гладкім возеры і закалыхалі вадзяныя расліны.

— Магар![1])—крыкнуў Азіс.



*... Карова пайшла напіцца вады, а кракадзіл схапіў яе.*

[1]) Кракадзіл.

Кракадзіл як шалёны закруціўся па возеры. Ён раз-по-раз выскакваў наверх і біў па вадзе хвастом. Пыркі і пена дажджом разляталіся ў бакі. Каля берагу, на мелкім месцы возера, стаялі чаплі. Спалохаўшыся, яны ўзняліся і зніклі за дрэвамі.

— Атрута паказала сваю моц, — сказаў Генры.

У гэту хвіліну кракадзіл узбег на бераг, але ў той-жа час павярнуўся і, abламаўшы хвастом чарот, кінуўся ў возера. Вялікае бервяно, якое плавала каля берагу, закруцілася ў хвалях, як трэска. А кавалкі вадзяных лілій далёка разляцеліся па возеры.

Азіс моўчкі назіраў за смерцю кракадзіла. У яго вачах відаць быў страх.

— Гэта-ж грэх, саіб!—сказаў ён дрыжачым голасам.

— Глупства!—рэзка адказаў Генры.—Вам брамiны маняць, што ёсць святыя жывёлы. Кракадзілы шкодныя, іх трэба знішчаць усялякімі спосабамі.

Азіс паківаў галавой, але нічога не адказаў.

Нарэшце кракадзіл заціх. Магчыма, ён здох, забіўшыся пад карэнні ўзбярэжных дрэў. Паляўнічыя абышлі навокал усё возера, але нідзе не знайшлі ніякіх слядоў.

Праз гадзіну паляўнічыя вярнуліся ў паселішча. Азіс спачатку палахліва пaглядваў на брамінаў, але хутка супакоіўся і перастаў аб гэтым думаць.



*Раптам паказалася страшэнная галава кракадзіла..*

# КАВАЛЬ ВЯРНІДУБ

*Казка А. ЯКІМОВІЧА*
*Рысункі В. ВОЛКАВА*

*(Канец[1])*

Па гасцінцы бітым,
Па бялюткім свеце
На кабылцы гнедай
Едзе каваль, едзе,
Ўсюды праязджае,
Перашкод не знае,
Нібы вольны вецер,
Нібы птушка тая.

І паны-баяры,
І стральцы-гусары—
Царская ўся сіла—
Млеюць ад асілка,
Ад аднаго слова,
Пра яго суровы
Гнеў на людаедаў
За бацькоў і дзедаў,
Імі рабаваных,
Гнаных катаваных.

Па шляху-дарозе
Не было слупоў,
На якіх не вешаў
Панскіх ён галоў.
Па шляху-дарозе
Не мінаў нідзе
Гнаных, катаваных,
Скрыўджаных людзей.
Скрыўджаным, нявольным,
Як братам сваім,
Ён заўжды гатовы
Памагчы усім.

* * *

Дзень-другі ён едзе,
Едзе ён і трэці,
Выехаў на ўзгорак,
Дзівіцца і бачыць:
Вось ужо і горад
Перад ім маячыць,—
Царская сталіца.
Ля тае-ж сталіцы
Мора мітусіцца
Ад галоў народу—
Цэлага паходу...

Спераду манахі
Ў чорных апранахах,
Як жукі з папамі
Цягнуцца радамі,—
Па цару, баярах
Памінкі спраўляюць,
Тысячы кадзідлаў
Хмарамі ўздыхаюць.

А за імі следам
У паходзе гэтым
Нехаця, павольна
Люд брыдзе нявольны,
Абшарпаны, голы,
Ды такі вясёлы,
Сэрцы шчасцем поўны,
Сэрцы ўсіх гавораць:
„Хто такі ваяка,
Хто такі сіляка,
Што забіў іх гора,—
Цара-людаеда,
Жалю хто не ведаў
Спакон веку-роду
Над сваім народам?“

[1]) Пачатак гл. у № 11 і 12 за 1935 г. і № 1 за 1936 г.
Казка „Каваль Вярнідуб“ друкуецца ў журнале ў скарочаным выглядзе. (*Рэдакцыя*).



Вось каваль тут пад'язджае
І за міг паход спыняе,
На ўсе светлыя староны
Б'е ён нізкія паклоны
Ды такое слова кажа:
— Люд нявольны, воля ваша:
А ці жыць мне, ці памерці—
Я віноўнік царскай смерці...

і каваль тут па-парадку
Расказаў усё спачатку—
Хто ён сам,
Адкуль ён едзе,
Як пазбавіўся ад смерці,
Як спаткаў цара й баяр,
Як загінуў люты цар,—
Словам, як яго мятла
Войска царскае змяла
Са шляху, як смецце тое,
Непатрэбнае, благое.

— А цяпер ўсяму народу
Абвяшчаю я свабоду!
Будзем самі, будзем самі
Над сабой гаспадарамі!

Пасля гэтакай навіны
Ўсе нявольнікі краіны
Пазляталіся як птушкі,
Вярнідуба сталі гушкаць,
За геройскі яго ўчынак
Велічаюць гордым чынам—
Ўсенародным малайчынам!
Гонар, слава кавалю
На ўсю вольную зямлю!

І, паклікаўшы музыкаў,
Баль наладзілі вялікі.
Пілі, елі, што хацелі,
І скакалі як умелі.
Вярнідуба частавалі,
Весяліліся, спявалі
Як ніколі ўсе уволю,
Аж грымелі лес і поле
Ды палацаў камяніцы
Калаціліся ў сталіцы.
Аднязгодна сюды з ласкай
Запрасілі і Параску,
Мышку шуструю, кабылку,
Пчолку—слаўную двукрылку,—
І медзведзіцу з бярлогу,—
Весяліцца хай памогуць!

Ну, вядома, быў і я там,
„Казака“ скакаў заўзята,
Мёд, віно і піва піў,
Толькі вусы памачыў.

Менск, 1935 г.

## Ці ведаеш ты?



*На гэтай староньцы нарысавана 28 розных цікавых і дзіўных звяроў. Ці ведаеш ты іх усіх? Напішы нам: пра якіх з гэтых звяроў ты хацеў-бы прачытаць апавяданні ў журнале „Іскры Ільіча".*

# Загадкі



Сорак вопратак на ёй—
Не зашпіліш ні адной.



Хоць малы ён—часамі з кулак,
Але ў рукі не возьмеш ніяк.



Два браты цераз дарогу
Блізка-блізенька жывуць,
Ды ніяк яны не могуць
Друг на дружку і зірнуць.



У двух матуль
Па пяць сыноў
А імёны ў іх адны.
Адгадайце, хто яны?



*Сенька ехаў з гары на лыжах. Раптам наляцеў на корч і ўпаў. Адна лыжа асталася на назе, а другая недзе прапала. Дапамажыце знайсці Сеньку другую лыжу.*

ПАПРАЎКА. У № 1 па віне друкарні ў вершы „КАЛГАСНАЯ РАДАСЦЬ" выпала прозвішча аўтара: Я. ЖУРБА.


**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЛЮТЫ 1936 г. № 2

Цана 30 кап.



# Як Міша і Грыша ўзялі ў палон белага разведчыка


1


2


3


4


5


6


7


8

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 25.380 экз. Заказ № 93. Уп. Галоўлітбела № Б—1037